# НАВІНКІ

10 - 17 кастрычніка 2002 №20(69) Кошт свабодны





**РЭЛІГІЯ даўно ўжо перастала быць опіюмам для народу. Сёньня гэта ўжо нешта большае...**

Стар.4-5

## ЦІ СТАНЕ БАЦЬКА БАЦЮШКАМ?

Новы закон «Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях» можа стаць першым крокам да ператварэньня нашай краіны ў тэакратычную дзяржаву. Застанецца толькі знайсьці свайго аятолу-патрыярха.

Працяг тэмы на стар.4-5

## Імяніны ВВП



«Малады Фронт» з помпай адзначыў юбілей прэзыдэнта суседняй краіны.

Стар.2

## Съпявайма на мове!

Пасьля месячніку «Гаварыльцы па-беларуску» ТБМ заклікае наступны месяц яшчэ й гарланіць песьні. Але ня Nazareth або Scorpions...

Стар.7

## СМАЧНА ЕСЬЦІ

Барацьба за энэргазьбераганьне й спроба ўраду сэканоміць на саплях грамадзянаў падчас ацяпляльнага сэзону – не адзіныя навацыі сацыяльнай палітыкі дзяржавы. У Беларусі распрацоўваецца канцэпцыя новай «нацыянальнай палітыкі харчаваньня».
Як паведамляецца з афіцыйных крыніц, у аснове канцэпцыі ляжаць тры моманты: узбагачэньне прадуктаў харчаваньня вітамінамі й мінэраламі, замена жывёльнага тлушчу расьлінным і зьніжэньне энэргаёмістасьці рацыёну беларусаў...



Апэтытна-суіцыдальны комікс на стар.8


РЭКЛЯМА






Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Нумар падпісаны да друку 10.10.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №223

## *НавІнкі ў тЭстах*

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. 10 кастрычніка адзначаецца сусьветны дзень:**
А) Фізычнага здароўя
Б) Псыхічнага здароўя
В) Псыхічнай хваробы

**2. Які патрыярх наведаў Беларусь з афіцыйным візытам?**
А) Алексій
Б) Уладзімір
В) Філарэт

**3. Каму прапанаваў усталяваць помнік у Ружанах бізнэсмэн Ігар Аляшчук?**
А) Льву Сапегу
Б) Льву Таўстому
В) Льву Троцкаму

**4. Якая тэлерадыёкампанія адзначыла днямі сваё дзесяцігодзьдзе?**
А) Мір
Б) Труд
В) Май

**5. У Беларусі зьявіцца камэрцыйны банк са стопрацэнтовым швайцарскім:**
А) Сырам
Б) Гадзіньнікам
В) Капіталам

**6. Каго прызначыў прэзыдэнт кіраўніком тэлекампаніі СТБ?**
А) Аляксандра Зімоўскага
Б) Юрыя Казіятку
В) Паўла Якубовіча

**7. Хто распачаў збор сродкаў на будаўніцтва ў Менску помніку маршалу Жукаву?**
А) Бабруйскія вэтэраны
Б) Беларускія партызаны
В) Нямецкія палонныя

**8. Якую краіну ЗША зьбіраюцца падзяліць на тры часткі?**
А) Ірак
Б) ЗША
В) Беларусь

**9. Што прапанаваў аб'явіць дэпутатам ПП НС РБ Анатоль Лябедзька?**
А) Галадоўку
Б) Абжыралаўку
В) Імпічмэнт

**10. Які пост прапанаваў скасаваць прэзыдэнт Башкартастану Муртаза Рахімаў?**
А) №1
Б) Вялікі
В) Свой

**11. Якую гульню забаранілі ўлады Узбэкістону?**
А) Більярд
Б) Хованкі
В) Heroes IV

**12. З 14 па 19 кастрычніка ў Беларусі пройдзе тыдзень:**
А) Маці
Б) Бацькі
В) Швагра

**13. Нашую краіну наведае з афіцыйным візытам генсек кампартыі Віетнаму:**
А) Нонг Дык Мань
Б) Лонг Дык Вань
В) Ну Ты Глянь

**14. Колькі цяпер будзе каштаваць віза ў ЗША?**
А) 100 USD
Б) 100 даляраў
В) 100 баксаў

**Правільныя адказы:** 1-Б, 2-Б, 3-А, 4-А, 5-В, 6-А, 7-А, 8-А, 9-А, 10-В, 11-А, 12-А, 13-А, 14-?

# Happy birthday, Mr President...

## *Маладафронтаўцы праставілі Пуціну пляшку гарэлкі*

## *На злОбу днЯ*

### Ода

Шаноўны сябра, любімы сусед!
Зь юбілеем цябе – жыві тышчу лет.
У руках трымай моцна дзяржаву,
Табе, міратворцу сусьветнаму, слава!
Наш край табе посьпехаў толькі жадае,
Ва ўсіх пачынаньнях хай бог памагае.

Хутчэй забірай свае падарункі,
А нам прывязі торты, ласункі.
У нас усё добра, цікава жыць.
Калі ёсьць што бальное, хвароба зьбяжыць.

Каб былі добрыя зубы,
Табе дапаможа зубр.
Каб сардэчных часоў ня зьнікла работа,
Лячыцца к нам едзьце – у нас ёсьць балота.
Каб расла шэвелюра, былі вусы,
У нас ёсьць слуцкія паясы...

І будзе здароўе заўсёды кароўе.

Век ад веку, увогуле, хай будзе так:
Шчасьліў будзь, друг, паважае хай враг.

P.S.
З намі чэсна zusammen жывіце
Сваімі рачамі нас не гнявіце.
Болей эканамічэскі не прыцясьняць,
Цэнтар Эўропы рукой не чапаць!
Вот жа ж вылез, піцерскі гусь!
На калені зваліць жадаў Беларусь.

Горача зьдзекам адкажам – НЕТ!
Рабі сабе сам палітычны мінет!

Ярыла Пшанічны




Нарэшце «Малады Фронт» адкрыў сваё сапраўднае аблічча. Выкармышы Севярынца – пятая калёна расейскага імпэрыялізму.

Як глыбока мы памыляліся, бачачы ў асобе Лябедзькі і ягонай лібэральнай брацii галоўную прамаскоўскую сілу. Нядаўняе адзначэньне 50-годзьдзя крамлёўскага бугра расставіла ўсё на свае месцы. Гістэрыю вакол сьвяткаваньня дня варэньня Пуціна разьдзьмуў ніхто іншы як «Малады Фронт», які правёў 7 верасьня шэраг акцыяў з нагоды юбілею расейскага правадыра. Яшчэ з самага ранку маладафронтаўцы аздобілі бел-чырвона-белымі сьцягамі рэклямныя шыльды расейскіх кантор «Лукойл», «Славянская деловая группа», «Славнефть», «Балтика» і гандлёвыя цэнтры расейскіх аўтамабільных кампаніяў, што, відаць, мусіла сымбалізаваць адзінства беларускіх нацыяналістаў і расейскіх капіталістаў.

Аднак птушаняты Севярынца не абмежаваліся толькі гэтым. Яны прыйшлі да расейскай амбасады, каб перадаць прэзыдэнту Пуціну падарункі ад «Маладога Фронту»: шыкоўны скураны чамадан, паўлітруху гарэлкі (!) і адкрыты ліст, у якім маладафронтаўцы павіншавалі Ўладзіміра Пуціна з 50-годзьдзем і выказалі падзяку за прапанову ўвайсьці ў склад Расеі шасьцю абласьцямі. Паказальна, што, ня гледзячы на міліцэйскі рэфлекс хапаньня на маладафронтаўцаў, ніхто з удзельнікаў акцыі ня быў затрыманы. Вось табе, бацька, і дзень незалежнасьці! ●

**Вадзік Саранчукоў**

**P.S.** Цікава, а што ж падарыў на бёзьнік Пуціна прэзыдэнт Лукашэнка?




# Ні калА, ні двара...

Камуністы-калякінцы, якія дагэтуль адседжваліся за задніцамі партнэраў па апазыцыйнай кааліцыі, нарэшце такса-ма пакаштавалі бацькавага дубца. Не на карысьць унукаў Ільіча вырашылася пытаньне з офісным памяшканьнем Партыі камуністаў Беларускай, якое тым прыйшлося ў сьпешным парадку вызваліць ад сваёй прысутнасьці. Валтузьня вакол гэтага памяшканьня цягнулася досыць даўно, таму цікава, што ж паслужыла апошняй кропляй, якая перапоўніла цярпеньне ўладаў. Прааналізаваўшы дзейнасьць ПКБ за апошні час, і кату становіцца зразумелым, што ніякай кіпучай падпольнай дзейнасьці па арганізацыі рэвалюцыйнага перавароту камуністы не праводзілі, у цёмных фінансавых махінацыях заўважаны не былі. Таму адзіная магчымая прычына выдварэньня – гэта банальнае п'янства ў офісе партыі – зьява, даволі распаўсюджаная ў беларускай палітыцы. Няцяжка ўявіць сабе, як паводле старой партакратычнай завядзёнкі, марксісты-ленінцы скончалі свой цяжкі дзень барацьбы добрым «вазьліяніем». Як набіраліся да пэўнай кандыцыі, пачынаўся дыскач пад воплі «Інтэрнацыяналу», «Варшавянкі» і ўсяго рэпэртуару часоў рэвалюцыяў 1905 і 1917 гадоў. Прыкладна пасьля 8 пляшкі рэвалюцыянэры падрываліся йсьці займаць тэлефон, тэлеграф і банкі, аднак мяцежны пачын скончаўся ўзяцьцем вінных паграбоў на бліжэйшым начніку. А потым аднекуль зьяўляліся дзявахі пад відам камсамолак, што дагэтуль праводзілі камуністычную агітацыю на стомэтроўцы – і брага гудзела да раніцы. Калі гэта выглядала сапраўды так, то ўлады своечасова накрылі гэты чырвоны прытон. Але так ці інакш, паплечнікі Калякіна былі вымушаныя перабрацца ў звычайную двухпакаёвую кватэру. Ці ўжывуцца яны з новымі суседзямі па пляцоўцы – яшчэ пытаньне ●

**Леў Троцкі**

# «Свобода – Это Рай»

***Па паняціях БНФ – азначае «Буду Нішчыць Фраераў»***

Як паведамляюць нашыя карэспандэнты з Навасібірску, актывісты партыі «Яблоко» мяркуюць стварыць новую палітычную партыю пад назвай СЛОН, што азначае «Союз людей, объединённых надеждой» альбо «Социал-либеральное объединение». Тэндэнцыя даваць назву палітычнай партыі, якая складаецца са слоў звычайнага слоўніка, але са схаваным падтэкстам з наступнай дэшыфроўкай узыходзіць сваімі каранямі ў далёкае мінулае, якое выразна праявілася ў нашыя часы ў выглядзе зэкаўскіх масьцюх-слоганаў: «КОТ», «ЗЛО», «БОСС», «СЛОН» і г.д., дзе «кот» – гэта ня кот, а «Коренной Обитатель Тюрьмы», зло – «За всё Легавым Отомщу», босс – «Был Осуждён Советским Судом», а слон – «Смерть Легавым От Ножа». Пасьлядоўнікі расейскіх яблычнікаў зьявіліся і ў Беларусі. Нядаўна ў Гародні група палітычных экстрэмалаў задумала стварыць партыю пад назвай Кааліцыя Актыўных Людзей, а адумаліся яны толькі прачытаўшы абрэвіятуру ў статуце. Цяпер гора-дэшыфратары ламаюць галаву, шукаючы назву для сваёй будучай арганізацыі ●



**Дацэнт,**
грамадзкі дзеяч

## *І рЫбку зьЕсьці, і...*

### Паматросіў і бросіў




Недарэчны канфуз адбыўся ў арміі ЗША акурат напярэдадні антытэрарыстычнай апэрацыі ў Іраку. Шырокай грамадзкасьці стала, вядома, як адзін каўбой згвалціў адразу 6 амэрыканскіх марскіх пехацінцаў. Той запрасіў ваякаў-небаракаў да сябе на флэт і паабяцаў кожнаму добра заплаціць, калі яны пагодзяцца зь ім пераліхнуцца. Марпехі як сьлед навазілінілі дупы. Аднак пасьля любоўных уцехаў, аматар хлопчыкаў у форме кінуў: ён ня проста адмовіўся плаціць, але й прыгразіў, што пакажа відэастужку начальству, калі тыя адмовяцца надалей падстаўляць яму свой зад. Шантажыст неўзабаве быў арыштаваны. Вось такія норавы ў амэрыканскай арміі. І гэтыя людзі хочуць надраць зад Садаму? Радуе, што беларускія вайскоўцы наўрад ці далі б так ганебна сябе нацягнуць. Мы папрасілі пракамэнтаваць гэтае здарэньне сяржанта спэцназу МУС РБ, часткі якой базуюцца ва Ўруччы: «Лохі, гэтыя марпехі! Нашыя байцы грошы наперад бяруць!»

# СМАЧНА ЕСЬЦІ

